УДК 882.6
ББК 84 (4Беі)

Ляшчун М. М.

Палескія сны/ Мікола Ляшчун. – Мінск: Харвест, 2007. – 144 с.

ISBN 978-985-16-1203-7.

Любоў да Радзімы і маці, свайго радзіннага куточка. роднай мовы — глыбокае, вялікае, светлае пачуццё. Яно натхняе кожнага паэта, выклікае жаданне паэтычным словам выказаць шчырую ўдзячнасць тым. хто цябе нарадзіў, узгадаваў, чые неабсяжныя прасторы вабяць сваёй непаўторнай прыгажосцю, чаруюць позірк і творча акрыляюць сэрца.

У гэтых вершах шмат непадробнага суму, аднак гэта не просты сум, а глыбокі роздум палешука, духоўны ратунак. каб не згарэла душа і не знікла вера ў адраджэнне роднага краю.



## БЕЛАРУСІ

Да скону табе
шчыра сэрцам адданы,
азёрны мой край, край пявучых
бароў,
з тваімі карэнні мае знітаваны,
крывіцкая ў жылах струменіцца
кроў.
Зямля мая любая, радасць
нязгасная,
паспелыя нівы і кволая рунь,
аднойчы ў жыцці толькі стану
няшчасным,
калі на цябе не змагу больш
зірнуць.
Не сонцам паўднёвым і
зваблівым морам,
а водарам хвойным заўсёды
лячуся.
Мне жыць без Радзімы –
вялікае гора,
а шчасце вялікае – жыць
ў Беларусі.

## Бацьку

Мядовы водар канюшыны
Душу вярэдзіць дап’яна,
Туга па клёкаце буслiным,
Агеньчык з роднага вакна.

І спеў касы на сенажаці
Самотай вее пакрысе,
І прахалода зыбкай гаці
Наўследак купiнай трасе.

Ўсхаплюся часам рана-рана
І басанож кудысь брыду,
Бо знікла штось неспадзявана,
Чаго ніколі не знайду

## Родная мова

Не знайсці ў свеце з ёй падабенства.
Яна – з роду крынічак бруістых
І адтуль, дзе пражыта маленства,
Ад людзей дабрадзейных і чыстых.

З баравых, балацяных сцяжынак,
Што ля Хойнік – глыбінкі палескай,
Ад дакосін, дакопак, дажынак
І ад песень тужліва-балесных.

Ад блакітных і ясных азёраў...
Дабрыня яе – ў мудрых паданнях,
А краса – ў васільковых узорах,
У ліпнёвых, сунічных світаннях.

На Палессі, ў Гародні, пад Мінскам
Яна лашчыць душу аднальково.
Мая спадчына, гонар і мараў калыска,
Мілагучная, шчырая, добрая мова.

## Мары

Дзяцінства маё...
Васількі і рамонкі,
клёкат бусліны,
І кнігаўкі плач,
І крык жураўліны,
І жаўранкі звонкія,
І спеў салаўіны,
І ранішні драч,
І жабы-крыкухі,
Што глушаць балота...
Эх, як мне ахвота
Ў маленства сваё зазірнуць!
Упасці ў абдымкі
Духмянай травіцы,
Зубамі ў антонаўку
Росную ўпіцца,
На пожнішчы ногі
Абдзерці да болю,
Зязюлю ў лесе
Хваёвым гукнуць...
Эх, каб мне ў маленства
Разок зазірнуць!

## Мой вырай

З балот замшэлых, купін, хвойніку
На белы нарадзіўся свет,
І з глушыні былой, з-пад Хойнікаў
Мой першы крык – радкі мае.

Пацешаць часам вандраванні –
Я на Палессе сэрцам рвуся,
Туды, дзе срэбранае ранне,
Дзе сны салодкія чамусьці.

Палескі край, душы світанак,
Адвечна спеліш думы шчыра.
Ты – мой пачын і мой прыстанак
І мой заўжды чаканы вырай.

## Будзь ласка

Яшчэ памятаю ў далёкім
маленстве
бабуля расказвала дзіўную
казку:
у нейкім вялікім калісь
каралеўстве
замест прывітання казалі
“будзь ласка”.
“Будзь ласка!” – заўсёды
віталіся з сонцам
дзяды і бацькі, дзеці іх не
па ўказцы,
і гэтак вякамі было ў іх ,
бясконца,
жылі ўсе ў згодзе і
шчырае ласцы.
Зайздроснікаў, злоснікаў
лютых ніколі
ў такім не вялося зусім
каралеўстве.
Нярэдка мне рупіць ад
крыўды і болю
вярнуцца ў бабуліну казку
маленства.

## На Губарэвіцкіх могілках

Вы чуеце, дзядзька Іван?
Зязюля пятроўку гукае,
Не чуецца песняў сяльчан,
І кайстры ніхто не збірае.

Паедзем, як колісь бывала,
І выкасім нашыя лёсы.
Гукнуў я, а рэха паслала
На шчоках слязінак пракосы.

Пагорбіліся альтанкі,
Трава пасівела ў лугах.
У вёсцы знямелі світанкі,
А пах сенакосны!.. А пах!..

Палескія летнія ночы
Бяссонны разбуджвае бор.
З кладоў сіратлівыя вочы
Зажураны косяць прастор.

***

На Палессі світанак
уздыхае крамяна.
Разбудзі мяне, мама,
з ясным сонейкам рана.

Я прайдуся па сцежках
баравых у суніцы
і ўкленчу набожна,
каб красой іх упіцца.

Паднявольнага бору
сабяру я даніну,
а любоў і пашану,
як малітву, пакіну.

Ахмяліць галаву
мурава-медуніца.
Да наступнага лета
буду лесу маліцца.

**Водар бэзу**

Мяне з маленства вабіць водар бэзу.
Я так люблю яго салодкі пах.
Замілавана салаўя-гарэзу
Я слухаю ў прытоеных кустах.

Здаецца, што пісаў бы і пісаў
Пра гэтае маленства шчабятанне.
О дзякуй, Божа, што ты мне паслаў
І водар бэзавы, і ядранае ранне...

Такія неабсяжныя прасторы,
Спрадвечную красу палёў, лясоў,
Загадкавыя ў сонным небе зоры,
І мне да іх адданую любоў.

Я ашчаджаю кожнаю галінкай,
І шчасця непатрэбна мне чужога,
Бо нестаптанаю пражыў былінкай,
Не вернікам, але ў сэрцы з Богам.

Я не падводжу вынікі жыцця,
Пішу пра тое,чым жыву, што бачу.
Які ў радзімы лёс, які працяг...
А я свайго жыцця не перайначу.

Не буду служкай сатане ўкрадкі,
Ад сваіх мараў-дум не адракуся.
Мо нехта ўчуе гэтыя радкі
І ўспомніць, што жыве на Беларусі.

## Родны кут

Усё да болю тут знаёма.
Пытаю ў гэтых меж парады.
Я кожнай стрэчы з родным домам,
Як першы раз, бясконца рады.

Тут водар нейкі адмысловы
І дух жыве чароўнай сілы.
Шапчу я коласавы словы:
“Мой родны кут, як ты мне мілы!”

Старэе незаўважна маці...
Няўжо адбудзецца часіна,
Што стане з крыжам дамавіна
Апошняй мэбляю ў хаце?

Акіну вабныя аселіцы
Пaглядам – поўным чаравання,
Што паўжыцця сплыло – не верыцца,
Маленства мроіцца світаннем.

Прачнуся, а у хаце пуста,
І пахне цёплым праснаком.
Бяру з замілаваннем лусту,
Смакую сырадой нагбом.

Бягу на луг, аж дых займае,
Ля бацькі ўпоравень іду,
А спрыту так і не хапае,
Часцей з біклагі пю ваду.

Стамлёным вокам павяду,
І сэрца сціснецца ў адчаі.
Вачэй паэту не хапае,
Каб піць красу і веліч краю.
Яго жывую п’ю ваду

## Валошкі

На ўскрайку жытнёвага поля
Спыняюся я на хвілінку
І ў рукі бяру трапятліва
Валошку, як неба часцінку.

Дзіўлюся натхнёна і шчыра,
І здасца ў душы нечакана,
Нібыта гляджу я пяшчотна
У вочы дзяўчыны каханай.

Ад шчасця заходзіцца сэрца.
Любоўна к вачам нахілюся,
І рупіць да вуснаў прыпасці
Красуні маёй – Беларусі.

## Вандроўка дахаты

Хаваю білет той да роднага краю
Апошні, як першую ў сэрцы любоў.
“Мінск – Хойнікі” – гэта які раз чытаю
І гладжу пяшчотна дрыжачай рукой.

І кайстру збіраю ізноў у дарогу.
Што ўзяць у яе? Толькі бохан ды соль,
А смутак, жалобу, тугу і трывогу
Даўно валаку ўжо заўсёды з сабой.

Мо посах дарожны7 Ды ён мне не трэба.
Дамоў прывядзе шум палескіх дубоў,
Жаўрук несціханы з блакітнага неба
І водар валошкавых жытніх палёў.

А ноччу дарогу мне поўня асвеціць.
Пад кожнаю хвойкаю я – кватарант.
Прытуляць яны і, як маці, прывецяць,
Бо крочыць дахаты сляпы музыкант.

**19 снежня ў Міколаў дзень**

Да Бога доўгая дарога.
Надыдзе кожнаму свой час.
У Бога не бывае многа,
Але ўсяго стае для нас.

Ўсё ж адчуваем  незямное,
Калі ў святы прыходзім храм
Заўсёды з грэшнаю душою,
Калі бывае цяжка нам.

Гасподзь дакорліва з іконаў
Нам адпускае ўсякі грэх
За неабдумныя праклёны,
За неўрымслівасць уцех.

Ідзем усё жыццё да Бога,
Хоць дай нам нават два жыцці,
Да Бога доўгая дарога.
Да Бога трэба дарасці.

* * *

А вы пра грошы ўсё, пра грошы...
У іх імпэт ваш, ваш уздым...
Свой лёс не купіш, мой харошы,
Не купіш шчасця за калым.

За хабар сонца не засвеціць
І ручаёк не забруіць,
Дабрэйшымі не стануць дзеці,
І жыта не закаласіць.

За плату не заззяюць зоркі,
Духмяны сад не зацвіце,
Не вырасце салодкім горкі
Палын на лёсавай вярсце.

Бо чалавека прызначэнне –
Знайсці галоўную з патрэб,
Пасеяць гэткае насенне,
Каб вырас дух, не толькі хлеб.

## А я люблю яе

*- Тата, а чаму мы ніколі не былі ў бабы Марусі? Што там станцыя ўзарвалася? – пыталася мая пяцігадовая дачушка Наталка.*

Я адказаў ёй быў гатоў,
Што ты, дачушка, маеш рацыю,
Але не змог тлумачыць слоў:
Нукліды, цэзій, радыяцыя...

Я не сказаў малой нічога,
У сэрцы тулячы слязу,
Аддаў бы я, дачушка, многа
За растаптаную красу.

Хачу даплакаць да канца
Свой боль і гнеў, свае пакуты,
Што горш смяротнага свінца
Мне аблілі жыццё атрутай.

І прачытаюць хай нашчадкі
Спакутаваныя радкі,
Як у вузельчык бралі маткі
Зямельку з водарам ракі.

Няхай жахнецца вінаваты,
Што я пяю – як галашу,
Што сірацеюць гнёзды-хаты
І скаланае боль душу.

Бо не аплачуць так праз век
Маю пакутніцу зямлю.
Яна загінула навек,
А я люблю яе. Люблю!..

## Матчыны рукі

Твой позірк шчаслівы, употайкі слёзы,
Як толькі сцяжынкай да хаты дакрочу,
І словы пяшчоты: вітаю, сыночак!
Ці цяжкай дарога здавалася ноччу?

Засвецяцца ўсмешкай і радасцю вочы,
Дык я забываю пра стому начную
І рукі натруджаныя пацалую.
Як я па іх ласцы заўсёды сумую!

Яны калыхалі мяне ў калысцы,
Касілі, аралі і шылі, і ткалі...
Якіх ручнікоў і палотнаў наткалі!
І дзе толькі сілу сваю не прыклалі...

І лён сінявокі, пшаніцы калоссе –
Ўсё сілы ад матчыных рук налілося.
Спрадвеку на свеце ўжо так павялося,
Што любая, добрая, мілая маці –
І шчасце, і радасць, і сонца ў хаце.

## Родная зямля

Прылягу ў стоме, грудзьмі прытулюся –
Трава-мурава ап’яніць галаву.
Куточак ёсць мілы ў маёй Беларусі.
Я там нарадзіўся, там сэрцам жыву.

Бары векавыя з паветрам мядовым,
Раўнінных прастораў абсяг урадлівы.
Я водар жывіцы ўдыхаю хваёвы
І шчасцем такім падзялюся раўніва.

Хвалебна я зроду казаць не ўмею,
Радзіму ўсхваляю і маці, і неба,
Бяру каласкі залатыя ў жменю –
Як пахнуць яны і зямлёю, і хлебам!

Палессе – да скону малая радзіма,
Душою дабрэю, пачуўшы ізноў
Ласкавае “мамо” з калыскі радзіннай
Гаворкаю напеўнаю палешукоў.

## Бацькаў сон

-- Скажы мне, тата, як табе жывецца
Ў сталіцы і на купленых харчах?
-- Дарма нідзе кавалак не даецца,
А поле наша сніцца па начах.

А хочаш, калі маеш ты хвіліну,
Апошні сон табе распавяду?
Саснілася, што гоняць на чужыну,
Ды пешшу, і сцябаюць на хаду.

Балюча лупяць каты бізунамі,
Шалёны і раз'юшаны канвой.
Я азірнуўся, а ўслед за намі
Дзяды ідуць жалобнай талакой.

Скрозь час ідуць – святыя, незямныя,
Бо ў раі светлым ўдосталь пабылі,
Ідуць-брыдуць нямыя і сляпыя
Па роднай адзічэлае зямлі.

У белых акрываўленых кашулях,
Як здані, і са свечкамі ў руках.
-- Хоць вы застаньцеся, хоць вы! –
прашу я, --
Свой вечны сон не рушце на кладах.

Я, здэцца, паваліся, не стрываю,
І вочы заліваюцца крывёй,
Але ў руках усё адно трымаю
Вузельчык з нашай роднаю зямлёй.

## На світанні

Світае старажытнасцю
Палесся далячынь.
Тут пахне нівай жытняю
Над вёскай гарачынь.

Несправядліва, дзіка,
Таму душа баліць,
Што вёскі мруць без крыку,
Не просяць нават піць.

Чужэе, сірацее
Мой край – святы пагост.
Як доўга ён гавее
Чарнобыльскі свой пост.

## НА СЁМУХУ

Павіснуў на душы бязмен,
Сышоўся свет на згадках клінам.
Пакуты сталіся ўзамен –
Дзіцячым здрадзіў успамінам.

Бязмен узважваў напрыбліз
Мне фунтамі скупую долю.
Жыццё – адвечны кампраміс,
На ўсякі боль няма спатолі.

Мне шлях жыццёвы паспрыяў,
Хоць быў няроўны ён і слізкі,
Аднак не думаў, не гадаў,
Што дам за спадчыну распіску.

Бурліць расчараванне вір,
Мне б толькі ў яго не ўпасці.
Мой лёс – надзейны павадыр,
І не ў багацці, зрэшты, шчасце.

## Маё Палессе

Радзінная, любая сэрцу зямля,
Люблю тваіх пожнішчаў водар!
Краса твая позірк чаруе здаля,
Ў цябе закаханы я зроду.

Бязмежная далеч, надёю блакіт,
Чародкамі туляцца хаты,
Абрус рассцілае ў цішы ракіт
Туман ля ваколіц багаты.

Здаецца, ніколі жыццё не міне,
Бо вабіць абсягам прыволле,
А бор маё сэрца палескі гукне –
Я дома шукаю спатолі.

## Мае сны

Не да песень, не да весялосці,
Не хмяліць нават чарка віна.
Да бацькоў я прыехаў з горада ў госці,
І ўначы вачэй не самкнуў давідна.

А пад саменькі ранак адолела змора.
І прысніўся пякельны і вычварны сон:
На гары я стаю, а наўкол быццам мора,
Толькі ў ім не вада, а барвовы пясок.

Я пясок паімкнуўся адгрэбці барвовы,
Бо і вёску, і родную хату угледзеў.
Але раптам здранцвеў – і ні руху, ні мовы,
Толькі вухкала штосьці удалечы недзе.

Скамянела усё, а барвовы пясок,
Як агонь, запаўзаў і у студні, і ў хаты.
Я ў адчаі спрытомнеў і крыкнуў праз сон:
“Там жа людзі! Куды ён, куды ён, праклятый!

Як жа жыцьмуць у вогненным пекле яны!?”
Прачынаюся. Гулка калоціцца сэрца.
О Чарнобыля крыж! О жахлівыя сны!
Спачуваю, каму вас сасніць давядзецца.

## Мрою дзяцінства

Мрою дзяцінства ласкавага вёсны.
Рог пастуховы разбуджвае сны.
Ткалі нам долю бабуліны кросны,
Плачуць забытыя сёння яны.

Сціхлі музыкі, і песні знямелі,
Высахлі вочы ад слёз назусім.
Гойдае даўняе рэха арэлі,
І не зацепліцца з комінаў дым.

Доля мая – незагойная рана.
З бацькам і маці жыву сіратой...
Больш ек страчае падмецены ганак.
Подых чужыніны ў хаце пустой.

## Музе

Мая таямнічая Муза,
Табой запалонены я,
Душы адчыні маёй шлюзы,
Збавіцелька, радасць мая.

Мая мілагучная мова –
Служыцелька Музы святой,
Твае паэтычныя словы
Зліваюцца ў песні ракой.

Ты словы мне дорыш, як ружы.
Анёл мой, мой Бог і кумір.
Як вальс, мяне кружыць і кружыць
Узнёслай паэзіі вір.

## На кірмашы ў Хойніках

“Купляй кіях, частуйся смела,
Бо агарод мой без нуклідаў!” –
Дзядок тутэйшы дзіўна ўмела,
Як радыёлаг спраўны выдаў.

“Не першы год я тут гаргую,
Як той рэвактар узарваўся,
А я таргую. не сумую,
Хоць нам Чарнобыль той дастаўся!

Насілі ўсё мы на праверку,
Ды так абрыдзела пазней.
Там дзеўка чыркне ў паперку
І кажа: “Еж, дзед, як раней!”

Так вось усё мы і ядзім
І прадаём патроху людзям.
На бэры тыя не глядзім.
А мо нічога і не будзе!?”

Ён мне сказаў, нібы спытаў.
Ды больш, відаць, сябе самога:
“Я колькі людзям груш прадаў,
І не памерлі, дзякуй Богу!”

Я слухаў дзеда, анямеўшы,
І жах смяротны ў сэрцы ўзнік:
Як доўга будзем, піўшы, еўшы,
Пражытых весці дзён адлік!?

## На яблычны Спас

Пакіну тлум турбот і будняў,
Агорклы асфальтовы рай
І палячу да хат і студняў
Туды, дзе вабіць сэрца гай.

Ўдыхну на поўненькія грудзі
Да болю так знаёмы пах.
Маленства ў памяці абудзіць
Мне шоргат жніўнага сярпа.

Здаецца, ўсё было нядаўна:
На поплаў гонім мы кароў,
Затрубім у ражок забаўна
Каля заспаўшыхся двароў.

Нясмела сонечныя промні
Кранаюць зыркую расу,
З-пад ног вызлізвае сутонне,
Кляпае нейкі дзед касу.

Усё мне блізка, ўсё знаёма.
Душы ўсяго так не стае.
Мая душа начуе дома
І ў мроях знак мне падае.

## Навальніца

Разбудзіла навальніца
Мае сны сярод начы,
І не сніцца, і не спіцца,
Хоць заплач ці закрычы...

Усё роўна не пачуе
Твайго крыку аніхто.
Дзе душа мая начуе?
Дзе апошняе плато?

Усё роўна я вярнуся
Ў край, дзе мары нарадзіў,
Да маленства прытулюся
Там, дзе спее мой наліў.

***

Навеюць згадкі неадольны смутак.
Чуллівасць палічу за драбязу,
Але стулюся, як дзіця, ў закутак
І не хаваю горкую слязу.

Успомню маму нашу ў маладосці,
І думкі апякае успамін –
Штось не зрабіў, не прывітаў кагосьці...
Жыццё ляціць, як журавліны клін.

Не раз душа трывожна здрыганецца.
Мне часта сніцца роднае сяло.
Шчыміць маё натруджанае сэрца,
І станавіцца цяжка на крыло.

На ростані тужліва азірнуся,
І позірк мой плыве за паплавы,
Куды ніколі болей не вярнуся.
Ляцяць у край палескі журавы!

## Настальгія

Я чытаю вам верш, не туляючы
горкія слёзы,
Пра Чарнобыль і край злыбядой
змардаваны.
Я палескія сню па начах
прыгажуні-бярозы
І садок наш, апошняй
сяўбой узараны.
Вы прыціхлі, і стоена вашыя
сэрцы змаўчалі.
Праклялі нас за штосьці святыя
нябёсы.
Вы не бачылі, як там нябожку
аднойчы хавалі
На кладах ля ўтравелай
пакінутай вёскі.
Мне здалося, што там быццам бы
закапалі навечна
Мае песні, што маці ў калысцы
люляла,
Тыя далі, што Музу на вершы
натхнялі адвечна,
Тыя сцежкі, якіх мне заўжды
не ставала...

## Амаль штодзень

Амаль штодзень абрыдлы стрэс,
Ад першых пеўняў і да зорак
Баевікі у душах спрэс
З тэлеэкранаў сеюць морак.

Бяру я ў рукі свой кіёк
І прыцемкам у соннй мгле
Іду ў лясок непадалёк,
Дзе ціша душу прыхіне.

Чароўны шэпт хваін, бяроз
Мне прыгадае, што прапета,
Мясціны тыя, дзе я ўзрос,
Дзе мары наталяла лета.

Ілюзіі сатлелі ў прах,
Дзяцінства мары не збыліся,
Але ў пакінутых садах,
Напэўна, яблынькі ўзняліся.

## Апошні начлег

Старую удаву-перасяленку
Прывезлі на дванаццаты паверх.
Зайшла ў пакой без плачу і без енку,
І толькі сполах па вачах прабег.

Агледзеда гаротная жанчына
Чужыя ёй казённыя муры
І быццам наймічка і сіраціна
Прыціхла раптам на чужым двары.

Маўчала доўга і несамавіта,
І нечакана прасвятлеў  пагляд:
З вузельчыка сыпнула жменьку жыта –
Такі ў нас на Палессі ёсць абрад.

Паставіла прывезеную лаву,
Заслаўшы саматканым дыванам,
Дастала з кайстры свойскую патраву,
А тут і звечарэла за вакном..

Кашулю апранула урачыста
Ды ціхенька лягла пад абразы,
І толькі памалілася Прачыстай,
Пачуліся Анёлаў галасы...

## Некалькі радкоў з аўтабіяграфіі

Можа, не сумею толькі хіба
Пра жыццё сваё сказаць усім.
І няўдач хапала ў ім і хібаў,
Ды жыццё не ганю я зусім.

Я пражыў, не прaслужыў з-пад палкі,
Не насіў халуйскага ярма,
Браў з жыцця не сытыя кавалкі,
Шапку ж перад гадам не здымаў.

Вечна йшоў з узнятай галавою,
Паважаў у іншых горды жэст,
А калі запагарджалі мною,
Я ўзняў да неба свой пратэст.

Не з-за крыўды больш, а праўды дзеля
Сыпаў з сэрца лютыя грамы,
Па сваім, не па чужым надзеле
З лёсам бегаў я наперайме.

* * *

Дабра нялёгка сеяць зерне,
І манна не ўпадзе з нябёс.
Бывае, так жыццё паверне,
Што ад цябе адступіць лёс.

Пакуль у высі зорка рдзее
Твая, лаві яе прамень,
Бо памірае ўсё ж надзея
Апошняй, як душы агмень.

Няма на свеце горшай здрады,
Як блізкі здрадаю кальне.
Ніякай радасці не рады,
І крыўдна станецца ўдвайне.

Ды, зрэшты, справа не ў разладзе –
Усіх калісь рассудзіць Бог.
Іудам стаў не той, хто здрадзіў,
А хто пакаяцца не змог.

**Маці**

Маленства крокі
па дварах,
Увішнасць звыклая
ля печы,
Духмяны бохан аржаны –
Гасцінец мне
сустрэчны,
І вочы – мокрыя ад слёз,
Іх позірк ласкавы і строгі,
Мой сэрцам
выплаканы лёс,
Мой боль душэўны і
трывогі,
І рукі – поўныя пяшчоты.
Ад іх заўсёды свята
ў хаце,
І змалку сынавы
турботы –
Усё завецца люба – маці!

## Палескія сны

Як часта мяне будзяць уначы
Маленства залатога адгалоскі,
І хочацца ў сэрцы зберагчы
Знаёмыя абрысы роднай вёскі.

Куды заўжды не ехаў, а ляцеў,
Нібыта выраслалі раптам крылы,
А сёння на чарнобыльскай вярсце
Чарнеюць нашы хаты, як магілы.

Аблогу безнадзейна-скрушных сноў
Пераадолець Бог дапамагае.
Я той перадчарнобыльскай вясной
Увесь астатні шлях свой вымяраю.

## Векапомнае

У позірку шчасця просінь:
-- Прыляж, бабуля, засні, --
Ласкава унучак просіць.
-- Не-не, не магу ані...

Самкну на імгненне вочы –
Няскошаны бацькам луг,
Кавалак посны, сірочы...
Пад плотам заржаўлены плуг.

Грукоча гарматны пярун,
З крывёй перамешана мліва,
Пякельна-чорны каршун
Над хатаю кружыць жахліва...

Ты сам лепш, унучак, засні,
Няхай табе соладка спіцца.
Я ночы мяняла б на дні:
Не спіцца хай лепей, не сніцца...

***

Вёска мая, радзіма мая,
Маці мая найпершая,
Богам навек блаславімая,
Песня мая незавершаная.

Вёска мая, нябога мая,
Сэрцам адвечна вольная,
Доля мая ўбогая,
Рана мая незагойная.

Вёска мая, скруха мая,
Мроя мая палахлівая,
Казка мая недаслуханая,
Радасць мая сіратлівая.

**О дай мне, Божа**

О дай мне, Божа, розуму і волі,
Каб не цураўся зруйненых двароў,
Не адступіў ад слова светароў
І адшукаў у споведзі спатолю.

Спяшаюся, кудысь паспешна крочу,
Пасля спынюся ў роздуме задуме,
Стамлюся у людскім бяздушным тлуме,
Дык сэрца цешу жнівеньскаю ноччу.

Калі над галавою слодыч лікаў
Яснюткіх, чыстых, непадкупных зор...
Маё сумленне – лепшы рэвізор
Удач маіх жыццёвых і пралікаў.

Ні перад кім пакуль я не ў даўгу
І не ў каго не клянчу сытай долі.
О дай мне, Божа, розуму і волі,
І я святое дзецям зберагу

* * *

Пішу ўзнёсла я і куца,
Душу ўкладаючы ў радок,
Каб хтосьці хоць вокам прыхінуцца
Да слоў маіх калісьці змог.

Таму натхненне ахінае,
Таму й не спіцца па начах.
Да чэрца край свой прытуляю
З пяшчотным жалем у вачах.

Хоць гэта ўсім ужо не нова,
Але жыву, калі пішу.
Іду ад матчынага слова
Штодзень, нібыта на імшу.

І не спыніць няме нікому:
Я з ім – на зорнае вярсце.
За словам матчыным дадому
Нібы на крылах я ляцеў.

Чамусьці боль не аціхае,
Вярэдзіць кволую душу.
Да сэрца мову прытуляю –
Калі й памру, то напішу.

**Пірагі**

На радасць бацьку юбілей
Яго сустрэлі ў роднай хаце.
Маршчынкі робяцца глыбей
У пастарэўшай раптам маці.

З вачэй самота не спадае.
Маўчыць, але душа крычыць.
"Ну як унучкі?" – запытае. –
"Хачу ім булак напячы!".

І пачынае завіхацца
Ля гарадской жалезнай печы,
А мне так рупіць усміхацца,
Нібы гарэзлівай малечы.

А вось і той знаёмы водар.
Я ў вёсцы ўжо, у роднай хаце,
Адчуў, што я з маленства родам.
О, што умеюць рукі маці!

Душы маёй уцехі мала,
Бо я ў сталіцы ў мамы госць,
Хаця пакуль жывая мама,
Датуль і кут радзінны ёсць!

Душа заходзіцца ад жалю,
Але збаўляюць ад тугі
І настальгічнага адчаю
Матулі любай пірагі.

## Пасля паездкі ў родную вёску

Нарэшце спаткаўся з радзіннай зямлёю
І ў скрусе да бацькавай хаты дакрочыў.
Што сталася з хатай і вёскай маёю –
Хай лепей зусім бы не бачылі вочы!

Таполі і вербы без нас аўдавелі,
Сустрэўваўкавата стогодні быльнёг,
Бабулінай жмут пасівелай кудзелі
На вечны спачын у застрэшку прылёг.

Натхнёна, як колісь, і метафарычна
Не хочуць ні сэрца пісаць, ні рука,
І рвецца да Бога з грудзей істэрычна:
За што пакараў ты так палешука?!

Ні клуба, ні школы не бачна ў лесе,
І выган мурожны парос хмызняком.
Маё безбалотнае, святое Палессе
Бязлюдна ўмірае, упаўшы нічком.

## Агонь жадання

Не кратайце аголеныя нервы
Сірочай і знявечанай душы.
Я ўзмахам лёгкім аркуша паперы
Агонь жадання раптам патушыў.

Цяпер стаіўся ў змроку адзіноты
І ўзважваю свой неадольны жаль.
За небасхілам зніклі параходы,
І ладзіць восень мне адходны баль.

Я сэрца марай светлай супакоіў –
Яшчэ запець павінны салаўі.
Крадзецца цень, бы злодзей па пакоі,
І свет дыханне, здэцца, затаіў.

Плачу жыццю не дробязнаю платай
І сквапна ашчаджаю кожны міг.
Яшчэ іспыт галоўны мой не здany,
Яшчэ грахоў не палічыў сваіх.

## Аравіцкія яблыкі

Спякотаю дыхаў пагодлівы жнівень,
І час на Палессі гарачы стаяў.
Палеткі забрудзіў атрутлівы лівень.
Ніхто тут не сеяў, ніхто і не жаў.

Убачыць такое не зычу нікому:
Цагляная школа лазой абрасла,
Валяецца лялька ля зграбнага дома.
Мая тут сяброўка юнацтва жыла.

Мне цяжка да болю ў такое паверыць.
У кінутай вёсцы гуляе журба.
Пустэчаю зеўраюць вокны і дзверы.
Драты з электрычнага звіслі слупа.

Ля крамы ўпоравень з дахам – дзяды,
Ля клуба на ганку пласцінка разбіта...
Стагналі ад яблык налітых сады,
А мне ж падалося, што людзі нібыта.

## Бабулі

Хай леты выбралі сваё,
душу яны не засцяць,
ты не спазнала шчасця,
бо леты выбралі сваё.

І сэрца вызнала праз край:
было уцехай поле
і лёс удовін з болем –
іх сэрца вызнала праз край.

І рукі зведалі спаўна:
не зналі стомы зроду,
ад іх – жытнёвы водар,
бо рукі зведалі спаўна.

Гадоў не згледзела сваіх,
яны сплылі імкліва,
хоць пражыла на дзіва...
Жыццё прайшло, нібыта міг.

## Мая вёска

У глыбінцы стулілася сціпла
Дабрадзейна, душой не гавеючы,
Мая крэўная, з назваю звыклай
Вёска любая мне – Губарэвічы.

Зроду лёсам ніколі не пешчана –
Прыгажуня мая працавітая,
Хоць на картах вялікіх не змешчана,
Маё сэрца прыцягвае магнітам.

Тут – мой першы ўпэўнены крок
І радкоў маіх лепшых крыніца,
Тут – кахання мой першы глыток,
Тут хацеў бы навечна спыніцца.

Калі стомай жыццё агарнае,
Толькі ў родную вёску імчуся,
Да вытокаў сваіх прыпадаю
І вяскоўцам сваім пакланюся.

## Аддаў бы год жыцця

Аддаў бы год жыцця на свеце,
Каб зноў убачыць хоць разок
У родным садзе яблынь квецень,
Сцяжын маіх святы выток.

Я ж так любіў мядовы жнівень
І пах той помню праз гады.
Атрутны цэзіевы лівень
Усё панішчыў назаўжды.

А колькі сёл на Беларусі
Знікае з выдыхам пакут.
Я ведаю, што не вярнуся
Ніколі больш у родны кут.

Калісьці з вераю паэтаў
Спадзе чарнобыльскі праклён.
На жаль, не хопіць сіл і летаў
Мне дачакаць тых светлых дзён.

***

Пра лёс свой верш не напішу,
Хоць вы і ўмольна папрасіце,
Пра мары, згаслыя ў зеніце,
І згвалтаваную душу.

Пра здраду шчыраму даверу
І пра пачуццяў існых повязь,
Пра недаслуханую споведзь
І пра спаганеную веру.

Пішу пра тое, што баліць
І часта сэрца мне трывожыць,
Што лашчаць вечна Прыпяць
з Сожам
І што не перастану сніць.

Маленствам змераныя межы
Маёй ахутаны тугой.
Я – я іх замучаны ізгой,
А ўсё адно ад іх залежу.

Пішу ці плачу, ці пяю –
Іх дух жыве ў маёй душы.
Натхнёна шэпчыць мне: пішы! –
І я пішу, на што хварэю.

**Пра міграцыю**

У дзяцінстве мяне чаравала
Вёскі роднае вабная грацыя.
Пачыналі на йгрышчах, бывала,
Гарманісты ўлетку авацыі,
Дык дзяўчаты аж млелі ад шчасця,
Хлопцы трызнілі механізацыяй,
Пакуля не навісла напасце –
Гарадская хвароба – міграцыя.

Ад чаго ўцякалі – няведама!
Мо ад лапцяў, ці мо ад бахілаў?
Дакаралі старыя: што трэба вам?
Адрачэцеся нашых магілаў!
У тым горадзе нават суседзі.
Як чужыя – ніякае розніцы.
Чуць ад роднае хаты ад'едуць,
Дык чужымі становіццв родзічы.

І сумленні пайшлі ў махінацыі.
Мо ва ўсім вінавата міграцыя,
Што гармонікаў сціхлі авацыі?
Вёску знішчыла мадэрнізацыя.
Пачалася па кланах градацыя.
Зрэшты душ наступіла інфляцыя,
Завяршыла усё радыяцыя...
Мелі прадзеды нашыя рацыю!

## Ля родных падворкаў

Ля родных падворкаў схіляем галовы,
Нібы на пагостах ля даўніх крыжоў,
І коцяцца слёзы – балючыя словы:
Ці ўдасца калісьці прыехаць ізноў.

Журба разрывае збалелыя грудзі.
Радзінных палеткаў знямелая даль.
Прыпалі ў жалобе да веснічак людзі,
У позірках – роспачны смутак і жаль.

Сцяжынкі маленства зусім утравелі.
Палошча вятрыска зялёны абшар.
Налівы на радасць у садзе паспелі,
Ды вусны абпальвае атрутны прыгар.

Бывайце сцяжынкі, буслянкі, азерцы,
Бывай салаўіны і жаўранкаў спеў.
Я вас услаўляў ад натхнёнага сэрца,
А лепшых радкоў напісаць не паспеў.

## Лясы Беларусі

Бары і дубровы – краса Беларусі,
І песня, і казка, і звон таямніцы...
Я сцежкай лясной у маркоце прайдуся –
Ажывіць душу цёплы водар жывіцы.

Тут сэрцам дабрэю і крыўды не помню.
Бялее бярозка, як стан у дзяўчыны.
Цалуюць-мілуюць і ветрык, і промні...
І вабяць грыбныя мяне баравіны.

Лясы Беларусі, душа Белай Русі,
Я з першага позірку ў вас закаханы.
Сунічным спакоем без лекаў лячуся,
Бальзамам гаю боль сардэчны і раны.

Лясы Беларусі, бары і дубровы,
Багун, вербалоз і асінавы гай...
Якія дзівосныя родныя словы
Ўвабраў у сябе і мой лес, і мой край.

## Дзве бабулі

Я еду ў горад, бо святыя душы
Мяне чакаюць кожны дзень і міг.
Сядзяць тужліва, галаву сагнуўшы.
Ім стала ўжо самотліва ўдваіх.

І пазіраюць сіратліва вочы,
Нібы з кладоў, ў няведамую даль.
Я уяўляю іх пакутлівы ночы
І адбалелы іх і сум, і жаль...

Каб вы іх хоць разок пачулі!
Са мною ажываюць спакваля.
Я неўзабаве сам ужо дзядуля,
Але для іх – нібыта немаўля.

Гамоняць і гамоняць безупынку
Пра ўсё, што ім не вернецца назад.
Пачуй, унучак!.. Ай, паслухай,сынку!..
Бабулі – дзвяноста, матулі – семдзесят.

Праводзіны – пакутней, чым сустрэча.
Праз слёзы моўлю штосьці, як у сне,
Пяшчотна абдымаючы за плечы,
А рукі не пускаюць іх мяне...

## Адказ на пытанне

Якія вобразы,
які ў радках прасвет,
Калі ад болю сэрца
аж стагнала ...
Хіба я думаў,
што я быў паэт?
А вершы ўсе
мая душа пісала.

Не да паэзіі было тады
высокай.
Ў журбе малітваў
светлых не чутно.
Мне голас жальбы
чуецца здалёку,
І памяць крыжам
стукае ў вакно.

## Губарэвіцкія вішні

Вішні ў роднае вёсцы паспелі.
Позірк вабіць сакоўны кармін.
Смутак тоіцца неадбалелы
У цішы незасеяных ніў.

Вакол нема, нібы на пагостах,
І глядзець нават сіл не стае.
Край маленства -- пакінуты востраў,
Згадкі тут пахаваны мае.

Не сасню больш, напэўна, ніколі,
Я блакітных і радасных сноў.
Разрываецца сэрца ад болю –
Я па сцежках маленства прайшоў.

Толькі ў снах і ў зваблівых мроях
Наталяю свой смутак спаўна.
І чамусьці здаецца мне болей,
Што ва ўсім і мая ёсць віна.

## Просьба да маці

Забяры мяне, любая мама,
У той час, у той дзень, у той міг,
Калі ўсмешка з вачэй не спадала
З маладых і вясёлых тваіх.

Я ў маленстве ізноў апынуся
І сасню зноў дзіцячыя сны,
Да жбанка з малаком прытулюся...
Мо і спраўдзяцца зрэшты яны?

Завядзі мяне, любая мама,
На той луг, дзе нас вабіў вятрак,
Ты даруй мне, што дома быў мала,
Гасцяваў на залётных вятрах.

Я ў думках дамоў прылятаю
І ў мроях хаджу басаног
Па тых сцежках палескага краю,
Дзе мілуюцца Прыпяць і Сож.

## КАЛЫХАНКА

Калі мне ўсміхнуцца нябёсы,
Мрою тайны чароўных начэй.
Распляці свае русыя косы
Ты па белі спакусных плячэй.

Я пяшчотна да іх прытулюся
Заінелай сваёй галавой
І да раначку ў іх утаплюся,
І ў снах палятаю з табой.

Мы з табой неразлучныя птушкі,
Нас чаруе нябесная сінь.
Ты мяне, як малога, пагушкай
І на шчоках далоні пакінь.

З маладосці яны калыхалі
Мае згадкі і мары заўжды.
Косы, быццам азёрныя хвалі,
Занелыя лашчаць гады.

## **Раніцай**

Зорная ноч на астанні.
Ветрык расіначкі гушкае.
Мроіцца краскам світанне.
Голас наладжваюць птушкі.

Ядрана, ў сэрцы аж ядрана!
Ўсмешкай пазначыўся дзень.
Дзіўнымі срэбнымі ядрамі
Сонечны сыпле прымень.

Раніца – час незабыўны –
Ў песнях спрадвеку апеты.
Я напісаў бы карціны,
Толькі радзіўся паэтам...

## Чарнобыльскі шлях

Я не ў вёску еду – ў горад,
Еду ў горад да бацькоў.
Шлях малы, ды ледзь агораў,
Бо ад жалю стыне кроў.

Стрэну позіркам калючым
Гмахі шэрых пабудоў.
Мне ад крыўды так балюча,
Што я еду не дамоў!

Не туды, дзе з божай ласкі
Позірк радуе прастор,
Не туды, дзе хмеляць краскі
І бярэ ў абдымкі бор.

Не стаіць на ганку маці,
Не гукне здалёк сусед.
“У казённай цесна хаце”—
Кажа мне вясковы дзед.

Да бацькоў прыеду ў горад,
Абдыму старых бацькоў,
А ў вачах жалоба-гора,
Бо прыехаў не дамоў...

## Чужыя хай вывучыў мовы

Чужыя хай вывучыў мовы,
Пабыў на старонцы чужой –
Няма лепш за родне слова,
Бо з ім параднёны душой.

Яно ў спеве жаўранка веснім,
Ў курлыканні тых журавоў,
Што з радаснай, гулкаю песняй
Вяртаюцца з выраю зноў.

Яно ў шэпце спелага жыта
І ў гомане хвой і бяроз...
Я матчынай мовай спавіты,
І ў ім нашай спадчыны лёс.

Чужыя забудуцца мовы,
Ды мне забыць аднаго –
Майго мілагучнага слова,
Багацця і шчасця майго.

## У ліпнёвы дождж

Зацерушыў ліпнёвы дождждык –
Палошча млявых дрэў лісты,
І птушак рэдкі, мройны пошчак
Натхніў на радасны матыў.

Пішу ізноў пісьмо дахаты
І кожны раз, бы ўпершыню,
Гарэзна, з блазнам зухаватым
Сяброў успомню і радню.

Ах, мама, мамачка, матуля!
Як шмат хачу табе сказаць,
Каб на душы было ўтульней,
Каб шчыра ў вочы паглядаць.

Перад табой адною каюся,
Ты – лепшы ў свеце мой святар.
Не раз грашыў – табе прызнаюся,
Жыццё паклаўшы на алтар.

Аднак не клянчыў і не кленчыў
Ні перад чым пакуль, ні кім.
Бывала – трохі нема енчыў.
Жыццё ж не казачны кілім.

Ах, мама, мамачка, матуля!
Мне варта трошкі падзяліцца
З табой – і робіцца ўтульней,
І мне ўсміхаецца дзянніца.

Ах, мама, мамачка, матуля,
Як сніцца незабыўны час!
З лазы дзіцячыя хадулі
Вядуць у свет маленства нас.

## Палессе

Радзінная, любая сэрцу зямля,
Люблю тваіх пожнішчаў водар!
Краса твая позірк чаруе здаля,
Ў цябе закаханы я зроду.

Бязмежная далеч, надёю блакіт,
Чародкамі туляцца хаты.
Абрус рассцілае у цішы ракіт
Туман ля ваколіц багаты.

Здаецца, ніколі жыццё не міне,
Бо вабіць абсягам прыволле,
А бор калі сэрца палескі гукне,
Я дома шукаю спатолі.

## Матчына навука

Не плач, мая ласкавая матуля,
Люблю тваю шчаслівую ўсмешку.
Ад рук тваіх лазовыя хадулі
Да мараў мне пракладвалі сцежку.

І дасягнуў я у жыцці нямнога,
Не раз панабіваўшы гузакі,
А да кавалка не цягнуў чужога
Ніколі сквапнае і злой рукі.

На праўду ты з маленства
блаславўляла,
Да нелюдзяў бязлітаснай была,
Дзе трэба плакаць, ты часцей
спявала,
Таму й лічылі мудрай паўсяла.

Змахнеш слязу пры развітанні
ўпотай,
Настрой мой адчуваеш за вярсту,
Бо вечна знаеш ўсе мае турботы.
Да дабрыні тваёй ці дарасту?

Адолеў самыя высокія навукі,
Да не сустрэў вышэйшай за тваю.
Ёй вучацца цяпер твае ўнукі.
Я гімн навуцы матчынай пяю.

## У родных Губарэвічах

Даўно гамоняць: высяленне...
А высяляць няма каго –
На прызбах бабкі ў здранцвенні
Чакаюць скону дня свайго.

Іх шлях увесь – з двара на лаву,
Ды той апошні – на клады.
Пра смерць гавораць, як забаву,
У спрэчках блытаюць гады.

А каляндар іх – ранак-вечар,
Не цешыць водар спелых ніў.
Ім дзень здаецца, нібы вечнасць.
-- Во, дзякуй, што пагаманіў!

Куды нам ехаць, чалавеча?
Не зможам жыць на чужыне...
Нашто дзяліць кавалак нечы?
Не кінем хаты мы свае.

Трывожыць старасць – грэх вялікі,
Наклічам толькі божы гнеў.
Памерлі нашыя музыкі,
І не гучыць палескі спеў...

Наталля, Вольга ды Хрысціна –
Старэнькіх некалькі удоў,
Жыццё згадаюць у даўніну
Ды парасходзяцца дамоў.

***

***Светлай памяці бацькі***

Мне не забыцца тых апошніх слоў,
Што апяклі маю душу да скону:
“Хачу паехаць летам к нам  дамоў,
Да нашых да таполяў і да клёнаў.

Зірнуць на тое, што там ацалела
Ад хаты, што калісьці збудаваў”.
Душа ў бацькі ад тугі збалела.
Ён моўчкі ў нас за ўсё перажываў.

Заўжды журботліва смаліў цыгарку,
Якую з рук не выпускаў амаль,
Хоць праз яе здаралася і сварка,
Але ён мала слухаўся, на жаль.

Жыццё скацілася рачною хваляй.
Што змалку гараваў – то гараваў.
Яго заўжды мы шчыра шкадавалі,
Ды толькі ён сябе не шкадаваў.

Заснуў навекі ён пад жоўтым жвірам,
Згарэў ад настальгіі і нуды.
Яго зямля чужая прытуліла.
Цяпер і ў нас ёсць родныя клады.

А я маленства сню і ўспамінаю,
Яго імгненні ў сэрцы берагу.
Я ж думаў ад тугі не паміраюць...
Не лечаць покуль дактары тугу.

## Развітальнае

Вяселлі ладзілі мы і хаўтуры,
Трапалі лён і ставілі стагі –
Жыццё пранеслася, нібы ў віхуры
І знікала ў цемры жалю і тугі.

Сяло маё – маленькая радзіма,
Што здрадна пакідаем – выбачай.
Так робіцца на сэрцы нелюдзіма,
Не быў бязлюдным наш ніколі край.

І мрояцца жалобна-летуценна
Маім вяскоўцам светлыя часы,
А ўслед з кладоў завуць перасяленна
Дзядоў асірацелых галасы.

## ***

Сумую без кропу і бульбы шурпатай,
Без лесу і поля за бацькавай хатай,
Асілкаў-дубоў, статных хвой і бярозак,
Пунсовага захаду, раніцы роснай.

Мне мроіцца часта дзянёк вераснёвы,
Як радасна крочу ў вясковую школу.
І чуецца голас настаўніцы першай,
Гучаць таямніцай Купалавы вершы.

Мне б хоць на хвіліну дадому з'явіцца,
З глыбокае студні зачэрпнуць вадзіцы,
Падыхаць паветрам сасновага бору,
Палескага ўволю паслухаць прастору...

* * *

*Ганне*

Праляцелі гады, нібы мроі,
Для Сусвету жыццё наша – міг!
Я далоні вазьму ў здалоні,
Нам заўсёды цудоўна ўдваіх.

Мы ідзём – ног не чуем ніколі,
Гэткай роўнаю крочым хадой.
Адшукаў у табе я спатолю –
Мне спакойна, бо люба з табой.

Я пісаў і пішу пакаяльна,
І, дасць Божа, яшчэ напішу
Для душы сапраўды абаяльнай,
Пакідаючы ў словах душу.

Мы пяшчотна глядзім вочы ў вочы...
У іх усё, і не трэба нам слоў.
Нашы вочы – таемныя ночы,
Ў іх каханне і наша любоў.

## Студзеньскае

Зіма зноў сыпле мяккі снег,
А бель – аж вочы адбірае,
І нечы ранні санны бег
Завея следам замятае.

На дрэвах – вэлюмны апад.
Стаіла ўсё вакол дыханне.
Гляджу на задрамаўшы сад,
На заварожанае ранне.

Успомню свой дзіцячы свет –
І сэрца ледзь не замірае.
Здаецца, снег нязбыўны след
Майго маленства замятае.

## Сярод паэтаў я настаўнік

Сярод паэтаў – я настаўнік,
Сярод настаўнікаў – паэт,
І незалежна ад абставін
Па-свойму успрымаю свет.

Мае будзённыя радкі –
Пачуцці, думкі і не болей.
Я іх складаю украдкі,
Бывае, на пярэрвах школьных.

Пішу ў гарэзны крык дзіцячы.
Бы клянчу ў Музы даніну,
І аддаю паперы з плачам
Душу – як майстар палатну.

Я тку блакітныя нябёсы,
А пычынаецца ўрок –
Дзяціныя ўплятаю лёсы
У вершаваны паясок

## Тэлефонны званок ад маці

Сынок, успомні нашу хату,
І светлыя сасняцца сны,
Жылі – як людзі, небагата,
Але без хабару і даніны.

Прасіла я заўсёды ў Бога,
Каб вас бярог ад злых спакус,
Каму даў шмат, каму нямнога,
Бо мудры ён, бо ён – Ісус!

О сэрца маці, колькі сілы
На век твой даў Бог-дабрадзей!
Яно, напэўна. і ў магіле
Балецьме за сваіх дзяцей.

Званок матулін, як малітва,
Сагрэў ён мудрасцю мяне.
Жыццё, матуля, -- поле бітвы,
Бывае – і ў дугу сагне.

Ды я жыву сумленна і годна
І не згаджуся ўсё адно,
Каб хтось нахабна і звыродна
Мне лез у душу, бы ў вакно.

## Апошняе перасяленне

Круціла стылая завея.
Дарогу снегам замяло.
Хаваць старую Пелагею
Прывезлі ў роднае сяло.

Каня спынілі на хвіліну
Сярод здзічэлага сяла,
Дзе ў доме ў засені каліны
Калісь нябожчыца жыла.

Капалі дол – не чужаніцы.
Маўчаў заснежаны прастор.
Не галасілі маладзіцы –
Яе адпеў высокі бор.

Пустыя. цёмныя акенцы.
Жаўцеюць свежыя груды...
І едуць зноў перасяленцы
Дамоў, ды толькі на клады.

***

Хто сказаў, што жыцця тут
не будзе бясконца?
Ён чужынец на гэтай
пакутнай зямлі.
Мы рыфмуем нязвыклае
“стронцый” і “сонца”...
Вы б у Хойніках нашых
разок пабылі.
Хай бы глянулі ў вочы
здзічэлых палеткаў
І лясоў пракаветных
паслухалі шум,
Што галосяць сіротамі
ўзімку і ўлетку, --
Вы б адчулі Палесся
жывую душу.
Хто сказаў, што тут жыта
не ўзыдзе ніколі,
Замест вёсак устане
дубняк малады?
Праз вякі хоць, я веру,
тужлівы да болю
Голас продкаў кагосьці
пакліча сюды.

## У калядным лесе

Пяшчотна ступаю па беленькім снезе.
О міг неспазнанай чароўнай цнаты,
Ты мне у калядным прымроіўся лесе,
Тут столькі дзівоснай красы, дабраты.

Як сон, агарнула натхненне святое.
З маёй цішыня размаўляе душой.
І нехта яшчэ штосьці шэпча такое...
Дык гэта ж сам лес размаўляе са мной.

Ласкава, задумна на гуслях іграе,
Акорд за акордам бярэцца матыў.
У лесе калядным душа заспявае,
І зачараваны тут робішся ты!

Я чарам увесь падняволены стаўся,
Нібыта у казцы, па лесе брыду
І сэрцам адчуў, што даўно закахаўся
У белую ціш і у хвой немату.

## Чытаючы Цвятаеву

З нябёс да нас занесена,
Пяшчотная, як сон.
Жаночая паэзія
Шануецца здавён.

І вечна застаецца
Часцінкай хараства
У кожным нашым сэрцы,
Як подых бажаства.

І быў, і ёсць, і будзе
Яе чароўны міг.
Дабрэюць болей людзі
Ад вершаў трапяткіх.

Бо слова, як святое,
Ў паэзіі жанчын.
Красою спавітое
І позіркам мужчын.

## У ноч на Пятра

Я, здэцца, сплю, але пішу,
Збіраю слоў чароўных россып
І акунаю ў іх душу,
Бо на паўшляху мая ростань.

Чамусь спяшаюся я жыць,
Таю якоесь прадчуванне,
Больш адчуваю боль чужы,
І цешыць птушак шчабятанне.

Мо я і праўда пастарэў...
Дык не марнець жа да адчаю!
На ніве наскай плуг арэ,
Рука сякеру падымае...

А падбіваць рахункі варта
І лепш раней, бо будзе позна:
Ці шчыра піў з сяброўскай кварты
І плакаў на хаўтурах слёзна.

Жыццё – яно ж, як дзень, як міг!
Імкнуся шчырым быць даконца.
На тварах донечак маіх
Пакіну хоць часцінку сонца.

## Сум-роздум

Які вакол зрабіўся люд,
А што чакае тых нашчадкаў,
Хто верыць шчыра ў абсалют
Пустых, прарочых абяцанкаў?

Гняце тупая мітусня,
Спраўляюць недарэкі гулі.
Ратуй, лясная цішыня!
Калі ж зязюлька закукуе?

Няхай хоць раз, адзін разок,
І гэтым сэрцу дась спатолі.
Сыдзі з нябёс, святы Прарок
І не багацця дай, а волі!

Каб думаў я, што захацеў,
Пякельнай не пужаўся ночы
І па вясковай мудраце
Ад нелюдзяў адводзіў вочы.

## **Хто кажа штосьці атрымалася**

Хто кажа штосьці атрымалася,
А больш зайздросцілі заўжды.
Над безднай нітка абарвалася,
А было ж мала ўжо хады!

Я лез упарта да вяршыні,
Ні кроку не рабіў назад,
Але забыўся пра гарбіны
І пра страховачны канат.

І вось імгненне – адчуваю –
Ўпаду на скалы-камяні,
Ды бліснулі ля небакраю
Выратавальныя агні.

***

У снах і ў нязбытых мроях
Імчыць мінулае жыццё.
Не дась ніколі мне спакою
Малечых згадак адкрыццё.

Якія то былі дзянёчкі!
А час свой бег не прыпыніў.
Здаваліся даўгімі ночкі,
Здаваліся малымі дні.

Чамусьці часу не хапае,
Каб слодыч зразумець жыцця.
Вяду вачмі да небакраю
З надзеяй, нібыта дзіця.

Жыву ўвесь час у захапленні,
Люблю цвіценне васількоў,
Як Багдановіч, як Ясенін,
Хмялею ў засені бароў.

## Вясковыя хаўтуры

Не бразне клямка. Ўсё вакол дзічэе.
Двары замоўклі і зачэзлі хаты.
Сяло маё патроху сірацее –
За год магілак вырасла багата.

Жвірок магільны зноўку апрануў
Халоднай коўдрай сцішаныя грудзі.
Картэж хавальны ў змроку патануў.
Ідуць адны старэнечкія людзі.

Стаіць ля долу згорблена жанчынка.
Не плачуць вочы, толькі вусны плачуць:
Прыйшла, сяброўка, на твае памінкі,
Ледзь-ледзь прыйшла, бо не змагла іначай.

Хто ж так мяне са шчыраю слязою
Калісьці правядзе ў апошні шлях?
Завея, пэўна, лютаю зімою
Ды вецер, што гуляе па палях...

Пайшла Аксіння... І ты во, Акуліна!
Эх як спявалі з вамі ў даўніну!
Пажыць з гадок яшчэ была павінна...
Свой жаль пясочкам сыпле на труну.

## Гартаючы старыя вершы

Відаць, я так тады і жыў,
Як і пісаў – каструбавата:
Няшчыры бляск, сляпы наіў,
І гучны, і дзівакаваты.

Лічу я якраз не сырасць,
Што з вершаў патыхае тых.
Я зразумеў, што толькі шчырасць
Ад вершаў нам займае дых.

Мажліва, усміхнецца хтосьці
І ў думках дурнем папракне.
Я не прашу вас, ягамосьці,
Каб шкадавалі вы мяне.

Паэзія – не флірт і шоу,
Паэзія – душы замова.
Я сам дажыў і сам дайшоў
Да верша, думкі і да слова.

***

Што ручайкі, бягуць гады,
Бяруць сваё наўздзіў сумленна,
Здаецца, дома ўсё нязменна:
Калодзеж, хата і платы...

Адно сталеюць аднагодкі,
Адходзяць людзі пакрысе,
Не бачна бусла на стрaсе,
Былыя замужам залёткі.

Назоліць думка: пастарэў!
А маці дык маленькім лічыць
І на сняданак гоніць клічам –
Жбанок шчарбаты на стале.

Жыцця на штосьці не стае.
Міне яно – і не заўважыш.
Што пастарэў, сабе не кажаш.
Зязюлька голас падае.

**Штоколечы пра сябе**

Я змалку быў у дзіваках,
Мне вечна волі не хапала,
І ў маіх кволенькіх радках
Заззяла зорачка Купалы.

Люблю я росныя світанкі,
Салодкі сенакосны пах,
І ў навальнічныя маланкі
Лепш засынаю па начах.

Не сплю, калі злавесна ціш
Самотай сэрца агарнае,
І толькі здэцца, быццам спіш,
А ў снах гармонік грае, грае...

## Эпітафія роднай хаце

Спі спакойна, радзінная хата.
Хай люляюць цябе туманы
І расказваюць казак багата
Продкі нашы з сівой даўніны.

Для мяне ты, як маці, жывая,
І такой застанешся заўжды.
Сірацінка мая дарагая,
Хай цябе пашкадуюць гады.

Я схіліўся журботна ўранку
Да грудзей прыгажуні-бярозы
І сціскаў недапітую шклянку.
Не віно там было – мае горкія слёзы.

## Я дома

Я дома, дома! Мілы сэрцу водар
І пах непараўнальны медуніцы...
Натхняюся, што я з Палесся родам,
З гасціннай, хлебасольнае зямліцы.

Не кляўся я ў любові ёй ніколі –
Няшчырасці баюся хоць крупінкі.
Нідзе душу не супакою болей
Апроч Палесся, не знайду спачынку.

Дыхнуў наліў на поўненькія грудзі –
Нібы рукой зняло начную стому,
Адчуў ізноў, чаму нібы аб цудзе,
Гаворым у разлуцы мы аб дому.

Які я дужы і заўжды багаты,
Калі махне ля веснічак рукою
Матуля стрэчна, і да роднай хаты
Не зарасла сцяжынка муравою.

## **Дасылайце матулям лісты**

Дасылайце матулям лісты,
Каб сагрэлі іх сэрцы любоўю,
Іх чакання, вачэй пекнаты
Хай паштар не маркоціць адмоўем.

Дасылайце матулям лісты,
І лісты, а не лісцікі кволыя.
Хай іх радуе почырк густы,
Запытайце найперш ці не хворыя.

Запытайце пра сена і дровы
І як родзіць зямля на аселіцах,
Ды ці пашы хапае каровам,
Ці буслы па-ранейшаму селяцца.

Размаўляйце з матулямі доўга
І бяседна, нібы пры сустрэчы,
Пра сябе раскажыце нямнога,
Сваякоў прыгадайце дарэчы.

Мы сталеем, старэюць і маці,
Ў роднай хаце мы рэдкія госці,
Каб да скону дзён не шкадаваць вам,
Што сказаць не паспелі чагосьці
І ў душы не было гаркаты,
Дасылайце матулям ліствы.
Дасылайце матулям лісты!

***

Я магу з сабой сварыцца.
А журыцца не магу.
Зацугляю кабыліцу –
Неўгамонную тугу.

І памчу туды, дзе неба
Парадніліся з зямлёй.
Мне для шчасця мала трэба –
Крочыць сцежкай лугавой.

Я тады спаўна натхнёны.
Кружыць чаравання вір.
Пахам красак ахмялёны,
Аглядаю неба шыр.

Узлятаю аж да зорак.
Да нязведаных планет.
Бог на небе талент дорыць,
Там народзіцца паэт...

## Я павінен пісаць

Я пішу, пакуля яшчэ дыхаюць грудзі,
І зямля абдымае пяшчотна, як маці,
Пакуля пазнаюць мяне родныя людзі,
Пакуля не чужынец я ў бацькавай хаце.

Я пішу, каб уведалі крэўна нашчадкі,
Што я ў вершах сваіх галасіў нездарма,
Як аплаквалі хаты палескія маткі,
Пакідаючы вёскі. Там нікога няма.

Я пішу і складаю свой верш, як малітву
Блаславеннай зямлі сваёй вечную памяць.
Яна згінула нема – як зрэзалі брытвай.
Гэты боль мае сны неадступныя паліць.

Спі сяло – слёз радзінных святая калыска –
Сном нябожчыкаў,што засяляюць клады.
Плач людзей і іх песні гаркавы вятрыска
Разагнаных па свету даносіць сюды.

## Я ЎСЁ ЖЫЦЦЁ ЧАГОСЬ ШУКАЮ

Я ўсё жыццё чагось шукаю,
Бо не прывык глядзець здаля
У невядомасць небакраю,
Дзе пачынаецца зямля.

Я не магу паўзці знямела,
Бо змалку марыў пра размах,
Каб сэрца пуста не смылела
І каб любіў, як волю птах.

Такія сінія азёры –
Крынічак божая сляза,
Дзе патанаюць вечна зоры,
Чаруе спадчыны краса.

Я да нязведанага рвуся,
Мой лёс – над роднаю зямлёй:
Ад небакраю Белай Русі
І ды глябінь душы маёй.

## Палескі наліў

На вокнах
свежыя
крыжы.
Іду як немай цаліною.
Святлейшы Божа, памажы!
Палеткі
Пахнуць
 збажыною.
Тут нехта ўсё яшчэ жыве,
Хоць ім бязлюдны свет нямілы.
Угледзеў яблыкі ў траве –
І абмінуць не маю сілы.
Падняў, са смакам адкусіў
Палескі – з цэзіем –
Наліў.

## 26 красавіка

Колькі год душа рыдае,
Колькі год, як я журблю
Па сваім радзінным краі,
Па зямлі, што я люблю!

Не пытайце, лепш скажыце
Суцяшальных колькі слоў.
Мне валошкі сняцца ў жыце
З непаўторнасці гадоў.

Рвецца песня ўвысь да сонца,
На палескі наш простор.
Мне адклаў на сэрца стронцый
Стогнам родны хвойны бор.

І не спіцца, толькі сніцца
Боль зямлі ў бясконцым сне.
Спалавелай бліскавіцай
Разрывае ночы мне.

**Крышталёвая мараль**

Да высокай паэзіі, прозы
Мой душэўны парыў не патух.
Афарызмы разумца Спінозы
Мой натхняюць знявечаны дух.

Я хіліўся да тайнаў навукі.
Спавядаўшы святую мараль,
А цяпер апускаюцца рукі,
Бо мяняюць мараль на крышталь.

У цане больш не людзі, а рэчы.
Ўсё маё, толькі мне, толькі я...
Воблік трацім ушчэнт чалавечы.
Ці стрывае нас грэшных зямля?

Я ж імкнуся да праўды жыццёвай,
Хоць нярэдка ад праўды звярэю,
Бо маралі не знаў крышталёвай
І жыву са святой – як умею.

***

***Дачцы Наталлі***

Як праляцеў імкліва час!
Жыццё – імгненне ў сусвеце
Калі вы параслі ў нас?
Зусім былі нядаўна дзеці...

Мінулі для мяне няўзнак
Твае студэнцкія семестры.
Здаецца, лялькі – ўчора як –
Яшчэ былі на першым месцы.

А сёння... аж не веру я!
Чамусьці не знаходжу словы.
У нас заможная сям'я –
На многіх размаўляем мовах.

І ў гэтым радасці жыцця,
Што пражылі мы недарэмна.
У вас надзейны наш працяг,
І будзе надалей, напэўна.

І ад таго душэўны ўздым,
Што назаўжды такое шчасце,
Бо змалку выпала усім
Да шчырай дабрыні прыпасці.

## Я СЛАЎЛЮ МАМУ

Я слаўлю мамы светлае імя –
Пяшчотнае, нібыта яблынь квецень.
Матулінага сэрца цеплыня
Нас сагравае лепш за ўсё на свеце.

Я слаўлю мамы светлую душу,
Якая разумее нас з паўслова.
Я толькі маму памагчы прашу,
Калі жыццё становіцца сурова.

Я слаўлю позірк маміных вачэй,
Якія бачаць, што нам невядома.
Даруйце боль праплаканых начэй,
Калі нас доўга не бывае дома.

Я слаўлю маму, бо яна – як Бог:
Усім прабачыць і ўсё даруе.
Яна для нас сабою ахвяруе,
Як ніхто пакуль яшчэ не змог.

## Дзедаў тытунь

У час маленства – светлы час! –
Бязбожна ўсе так не палілі.
Дзяды, выхоўваючы нас,
З цыгаркай болей гаманілі.

Бывала, з трубкай тытуню
За вечар столькі нам раскажуць,
Успомняць ўсю сваю радню
І больш кісеты не развяжуць.

Салодкі тытунёвы дым
Тлуміў малечыя галовы,
Ды ўцёрся ў памяць назаўжды
Не дым, а мудрыя іх словы.

## Добры чалавек

Сярод людзей не вылучаўся,
Турбот нікому не чыніў,
Ішоў кудысь, назад вяртаўся
І знік. Ці жыў ён ці не жыў?

Багаццем шчырай дабрыні
Дзяліўся неяк незаўважна,
Казаў: “Гасподзь мяне храні,
Каб я своё пражыў прадажна!”

Што не пад сілу, ён не браўся,
Душой сваёй не таргаваў
І чуласцю не выхваляўся,
Больш аддаваў яе, чым браў.

Яго жыццёвыя скрыжалі
Былі са сталі і са шкла.
Ён дабрыні не правіў балі,
А не рабіў ніколі зла.

## Зязюля

Ці верылі вы і ці чулі?
З убеленых майскіх садоў
Даносіцца голас зязюлі –
Вяшчункі жыццёвых гадоў.

Што ж ты, весялуха лясная,
Кукуеш запознена так?
Бо вёска мая нежывая,
І задзірванеўся бальшак.

Калі гэтак шчыранька зычыш
Ты леты вяскоўцам маім,
Чаму ж гэтак мала налічваеш?
Няўжо столькі жыць нам усім?

Зязюля нібы адчувала
Душы маёй боль і адчай
І хуценька пракукавала
Яшчэ мне чарнобыльскі май.

## Калі не хапае табе дабрыні

Калі не хапае табе дабрыні,
І сэрца ў адчаі спыніцца гатова,
Ты доньку мацней да грудзей прытулі,
Скажы ёй ласкавае, мудрае сова.

Усмешку згадай і пяшчоту матулі,
І дотык бабулінай цёплай далоні,
Дзівосныя казкі старога дзядулі
І першыя гульні на родным улонні.

Успомні маленства далёкага сцежкі
І водар радзіннае бацькавай хаты.
Ля вогнішча ў лузе з сябрамі начлежкі
І смак чабаровай духмянай гарбаты.

Заные душа ад маркоты і жалю –
Дык ты не ахайвай узычаны лёс,
І зрэшты сцяжыны жыццёвай скрыжалі
Акропяцца шчасцем і радасцю слёз.

## Зімовым ранам

Сняжок пасыпаў малады.
Зіма заслала вэлюм
На лес і сонныя сады.
Ім хораша у белым.

Зачараваны я красой –
І велічнай, і чыстай.
Мой запалонены спакой
Нірванаю прачыстай.

А стоена ў красе той шмат.
Калі палюбіш нешта.
Калі ў цябе з душою лад,
Сябе ты знойдзеш зрэшты.

І хай ты будзеш блудны сын,
І позна жыщь – здаецца,
З прыроды усяму пачын,
З душы усё пачнецца.

## Згадкі маленства

*Стрыечным братам*

Вы радасна мне прыгадалі
Маленства да болю і слёз
І нашы палескія далі,
І водар світанкавых рос

Ўлагодзіла сэрца сустрэча,
І я на вачах маладзеў.
Пра ўсё гаманілі дарэчы.
Пра тое, аб чым я хацеў.

І вершы мае разумелі –
Не трэба быў вам пераклад,
Бо змалку душой прыкіпелі
Да мовы, да песняў і хат.

Любілі наш край з сырадоем
І з белым ўдыхалі налівам,
І час той дзіцячай спатолі
Да скону нам будзе ўспамінам

## Апошняя ноч

Пустая хата. Вокны без фіранак.
Гняце душу нямая цішыня.
Нарэшце іволгай разбуджаны світанак
Аблашчыў промнем наступленне дня.

Апошняя у роднай хаце ноч,
А сэрца штосьці веры не прымае.
Усякі боль сцярпеў бы я апроч
Расстання вечнага з палескім краем.

І я хацеў, сабраўшы мужна волю,
Апошні раз забыцца ў светлым сне,
Але журбу і ў сне я не адолеў.
Яна навек адолела мяне.

## Зона

Маўчаць зажурана палеткі,
Счарнелі даўнія стагі.
Касіць ніхто не едзе ўлетку,
Тут – край самоты і тугі.

Лугі здзічэлі назусім,
Дзе колісь наш курэнь стаяў.
Я коней пасвіў тут малым,
Падлеткам копы тут цягаў.

Зямлю Палесся вызвалялі
З палону багнаў і балот,
А ліхадзеі змарнавалі
На невядома колькі год.

Я нема плачу і рыдаю,
Каб не вярэдзіць ран сваіх,
Я песні ціхенька спяваю
Часоў вясёлыз і былых.

Дзялю з табою боль і жах
Зямля пакутнага Палесся.
Нібыта перад сконам птах,
К тваім грудзям прыпаў увесь я.

## ЛІСТ ДА МАЦІ

Дабранач, мамачка, вітаю!
Даруй, што доўга не пісаў,
Бо шмат апошнім часам спраў.
Я ў снах лятаць не перастаў,
Расту, відаць, калі лятаю...

Я, як раней – дзівакаваты:
Люблю маленства калыханку,
Люблю завею, дождж, маланку,
Цярплю гарэзна прыпяканку –
Ды добра ведаеш сама ты!

Лятаю я ў блакітных снах,
І дзякуй Богу, што ў сне.
Наяве часта цяжка мне,
Як цяжка снегу па вясне,
Бо я душою вольны птах.

Кружыў і над азерцам-кругам,
Якога ўжо няма даўно.
Ты там бяліла палатно,
Успомніш – як і не было...
Нырца давалі качкі цугам...

А то прымроіццв, бывае,
Старая хатачка-нябога –
Блішчыць жаўцюткая падлога,
З кута ліецца ўсмешка Бога,

А ты так голасна спяваеш!

Жыцця святога непаўторнасць
На сэрца жалю навяла.
Тужу без роднага сяла...
Зноў ночка мройная сплыла –
Майго маленства незваротнасць.

Сярпок на небе, як калыска,
Люляе зорачкі высока.
Буслянкі сніў радзіннай клёкат...
Ты, мама, снішся мне здалёку,
Але ты блізка, вельмі блізка!

## Сны

Хаця мінула год нямала
З той чорнай, жудаснай вясны.
Стаіць у снах на ганку мама...
Як сэрца паляць тыя сны!

Я сню раўнюткія пакосы –
Нябожчык бацька рэй вядзе,
Нібы пракладвае лёсы
Нам у палескай злыбядзе.

Іду я ў снах да небасхілу,
Штокрок паглядваю назад,
Бо шлях да бацькавай магілы
Вядзе мяне, да родных хат...

## Сон і ява

Прысніўся нейк жахлівы сон
Мне ў ноч марозна-лютую,
Што збыўся нібыта праклён,
Каб без людзей пакутваў.

Якія словы напрарок
Мне той бязлітасны зладзей?
Іду кудысь, за крокам крок...
Людзей няма. Няма нідзе.

Ці шчыра жыў, сумленна браў
З жыцця кавалкі посныя?
Чаму праклён мяне даняў?
Мо прасвятленне позняе?

Брыду адзін. Адзін маўчу,
Душу ўручыўшы на агледзіны
Свайму сумленню. Закрычу –
Мой крык сцяной абведзены.

## Пуста ў лесе

Пуста ў лесе. Ціха ў лесе.
Не пратрубіць ласяня.
Вее змрокам паднябессе.
Вее смуткам цішыня.

Не напішаш, не раскажаш
Ўсё пра думы і пра лёс.
Лёс на вагах не ўзважыш,
Як не знойдзеш край нябёс.

Дайце крылы, дайце гуслі!
Будзе з песняй мой палёт.
Ёсць мясцінка ў Белай Русі,
Дзе пачын мой, мой усход...

Пуста ў лесе. Ціха ў лесе.
Гоіць сэрца цішыня.
Кліча кнігаўкай Палессе –
Там душы маёй радня.

## Рабінавая ноч

Ноччу на пужлівую маланку
Сумнымі вачыма я гляджу,
Слухаю пяшчотна калыханку
Бліскавічна-зорнага дажджу.

З подыхам далёкай навальніцы
Мроіцца палеская зямля.
Стукаюць маленства аканіцы,
Будзяць успаміны спакваля.

Гулкія грамовыя раскаты
Джаляць неадступнаю тугой.
Край мой на крыжы распяты,
Я – яго замучаны ізгой.

Хоць ты захлыніся ў адчаі,
Хоць ты дзікім голасам крычы,
Памяць мне ў мроі зазірае
Позіркам рабінавай начы.

## Канец красавіка

Астылых хатаў абразы
Мне мрояцца начамі.
Згадаўся зноў да драбязы
Чарнобыля цунамі.

Я красак не магу сасніць –
Пякельны сню малюнак.
Баліць душа, душа баліць
Ад сумных згадак-думак.

Здалося, што перахварэў
Палескай злыбядою,
Але мой кволенькі спадзеў
Азваўся ў снах тугою.

## Крытычны ўзрост

Адолеў свой крытычны ўзрост,
Бо зноў планіда спагадала.
Пашый кашулю навырост
Яшчэ адну, як колісь, мама!

Дыхну духмяным паркалём,
Маленства узгадаю слёзна.
Адплыў чаканы мой паром,
Крычаць паромшчыку ўжо позна.

І я пакрочу напрасткі
Цераз астатнія парогі,
А ўслед жыцця майго лісткі
На пыльныя ўпадуць дарогі.

***

*Дачцы Святлане*

Здабудзе плён сяўня важкая.
Трымай мацней і рупна сей.
На небе зорачка блукае
Спадзеўных мрояў і надзей.

Шукай і знойдзеш усё роўна.
Шляхоў нязведаных – абсяг!
У сваіх марах ты – князёўна.
Планіда – у тваіх руках.

І, каб няўзнак не спатыкнуцца,
Маліся сонцу і агню,
Каб ад крыніц не адвярнуцца
І з рук не выпусціць сяўню.

А Бог аднойчы прыхінецца!
Ступай пяшчотна па раллі.
І ўдача зрэшты адгукнецца
З дыханнем роднае зямлі

* * *

Мая нязбыўная спакуса –
У свет маленства зазірнуць,
Дзе пахне ільняным абрусам,
Дзе мроі светлыя жывуць.

Дзе меданосныя світанкі
Я у натхненні піў нагбом,
Дзе ўслед юначыя каханкі
Дарылі позіркі тайком.

Каб водарам палескіх красак
Дыхнуць, аддаў за гэта б шмат.
Я – вёскі роднай самапасак,
Я – ранніх яблыняў апад.

Мне хата бацькавая сніцца,
Што сэрца замірае ў сне,
Ды толькі вось жыццё скупіцца
І ў зарапад імчыць мяне.

**Матуліна песня**

Ты, мама, зроду сябравала з песняй,
Пяеш удзень, спяваеш на світанку
Ў жніво, каляды, ўвосень, напрадвесні...
А як пяшчотна дорыш калыханку!

А ў вясельным запяеш застоллі –
Да неба голас звонкі далятае,
І жыта не калышацца ў полі,
Калі матуля наша заспявае.

Для нас ты, мама, вечна маладая!
Касынкаю падвязваеш косы,
На іх упалі срэбраныя росы,
Табе зязюлька леты нагадае.

Яшчэ без усялякае замінкі
Унучку звыкла называеш донькай.
Малеча гладзіць кволаю далонькай
Твае неўтаймаваныя маршчынкі.

## Ліст у горад

Ты снішся мне, мама, з апошняе ночы
Ля нашае студні, ля нашага ганку
І бацька – на слова у нас не ахвочы,
А то ўсё гамоніць, гамоніць да ранку.

Пра наша маленства згадаем у скрусе,
Зажурана трохі ўдваіх памаўчым.
Я слёзы хаваю у зрэбным абрусе.
Ён водарам пахне палескай начы.

Вас лёс абяздоліў, абкраў, апустошыў,
Пакінуў душу без бацькоўскай зямлі.
Вы змалку сялянскую горкую ношу
На бедных нястомна плячах валаклі.

Жыццё згаманілі, як толькі сумелі.
Кацілася плынню няўмольнай яно,
А вы, мае родныя, ўраз пастараэлі,
І песень палескіх у вас не чутно.

Ідзе паляшук па праспекце ў ватоўцы
З паніклай, ссівелай ушчэнт галавой.
Сіротамі сталі ў сталіцы вяскоўцы
І ткуць свой апошні жыццёвы сувой.

## Зімовы малюнак

Не ява быццам бы навокал.—
Знямелі ў лесе гмахі-хвоі,
Сняжынкі, нібы дыяменты,
У вочы сыплюць белізною.

Ва ўборы вольхі і бярозкі
Стаяць бялютка-шлюбным,
Пазаплятаў ім косы срэбрам
Мароз – залётнік любы.

Красуні-елкі , што нявесты,
Стаіліся цнатліва,
Пагляд у іх – замілаваны,
Вясельна-трапятлівы.

Ля іх вячыстыя дубы
Дакорна кронамі ківаюць
І мройна, як дзяды сівыя,
Лясную цішыню люляюць.

## Брату Івану

Прачытай мне, як калісьці,  вершы
Пра любоў, пра веру, родны край,
А калі заруціцца, найлепшы
Ты мне верш пра маму прачытай.

Я тады ў маленстве апынуся
І вяскоўцаў памяну былых,
Бо яны па ўсёе Беларусі
Плачуць нема з могілак чужых.

Прачытай мне, братка, лепей вершы
Пра Палесся ўбогую зямлю,
А калі якога не завершыш,
Я яго ў песні дапяю.

## Жураўліны сум

Восеньскія туманы
Сцелюцца на паплавы.
Чуецца голас журбы –
Ў вырай ляцяць журавы.

Ляціце, журавы, далёка,
Няхай вам памагае Бог.
Да неба сіняга высока –
Я з вамі паляцець бы змог.

Восеньскія лісты
Кружацца ў вальсе дум.
Лес сціх ад драматы,
Сніць жураўліны сум.

Восеньскія вятры
Хмарамі засцяць сінь.
Рэхам гукае ў бары
Нас жураўліны клін.

## Жыццё праляцела

Жыццё праляцела, як міг, --
Мільгаюць празрыстыя цені
Надзей і парываў маіх,
Што ў вырай-нябыт паляцелі.

Ім добра – там цішаю спакой,
Не трэба спрачацца са светам…
І зорачак вогненны рой
Іх прыме, як мроі паэта.

## Смутак чорных начэй

Напнула
Сутонне
Крысом
І грудзі тугою пячэ.
Блакітны
Не мроіцца
Сон.
Да золку не звёў вачэй
Мне смутак чорных начэй.
Жалобаю,
Жалем,
Журбою
Чарнобыльскі сухавей
Калыша вячыстыя хвоі.
Мяне прытуліў да плячэй
Смутак
чорных
начэй…

## Сны маленства

Мне маленства часта сніцца,
Мамы цёплая далонь.
На гарэзнай кабыліцы
Мчуся да ракі спрасонь.

Цешыць вока плёс маўклівы,
Вабіць люстраная даль
У незваротны час гуллівы,
І душу вярэдзіць жаль.

Здэцца, каб не ў тым парадку,
Каб з палескіх зноў глыбінь
Асядлаць жыццё спачатку
Ды ўзірацца ў неба сінь...

## Купалле

І мы скакалі праз касцёр,
Наіўна веручы дарослым,
Што ў чарах вогненны шацёр,
Хоць ён нам пёк у пяткі босым.

Але падлетнай дзетвары
Ляцеў час позні неўзаметку,
Блукалі ноччу мы ў бары,
Шукалі доўга шчасця кветку.

Ў гушчарнік лезлі напралом,
Нас не палохалі пачвары.
Мы варажылі ўсе тайком,
Нам чары сэрца хвалявалі.

І сёння скачам праз касцёр.
Духмяна ў лузе пахнуць травы.
Купалля вогненны шацёр
Цяпер для нас, нібы забава.

## ЯЗМІНУ ВОДАР

Язміну водар з хмельнай прахалодай
Натхнілі песню зноўку у душы.
Пішу радкі з п'янлівай асалодай
У вечаровай чэрвеньскай цішы.

Лаўлю матывы сцішанае ночы –
Мелодыя ўсплывае пакрысе.
І патанае салаўіны пошчак
У летняй заварожанай раме.

Расою дыхаю, світанкі мрою,
Лятаю вечна у блакітных снах.
Мне змалку сцеле зорныя сувоі
Насустрач Млечны таямнічы Шлях.

Малюся небу, зоркам я малюся,
Над роднаю ўзняўшыся зямлёй,
Радзіме я малюся – Белай Русі –
Адзінай, непаўторнае маёй.

## Восеньскі матыў

Кружыць восень ціха свой апошні ліст.
Сумныя сялібы.
Ветрык голькай грае, нібы цымбаліст
Па люстэрку шыбы.
Голас шле тужлівы з высі, з-пад нябёсаў
Ланцужок гусіны.
Рэха адгукаецца на палетках босых
Клёкатам буслiным.
Вее моцна жалем, вее смуткам-болем,
Дзікай адзінотай.
Мне у вырай птушкай над жытнёвым полем
Паляцець ахвота.
І дамоў вяртацца рана напрадвесні
У куток радзінны.
Поўніць вырай вечна развітальнай песняй
Пачуццё радзімы.

## ХОЦЬ ГОЛАСУ НЕ МАЮ

Хоць голасу не маю,
Ды не спяваць не змог.
Каб не знямеў мой краю,
Мне песні шэпча Бог.

Спяваю – тым усцешны,
Сумленнем не крыўлю.
Мо хоць кагосьці з грэшных
Да слова прытулю.

Мне гэтак часам сумна,
Што бэсцяць бессаром
І мову ў нас бяздумна
З душы ірвуць сілкоі.

Хтось выгукне звыродна:
Маўляў, не згіне свет,
Калі й памрэ народны
Апошні наш паэт.

Хоць і адчай даймае,
Ды голасна пяю,
Бо з мовай засынаю
І з моваю ўстаю.

## Жыццё

Жыццё пытанняў ставіць безліч.
На ўсе адказаў іх няма.
Дарэмна, дружа, ў тое верыць,
Што доля знойдзецца сама.

Рашае лёс шмат без сумнення.
Так ужо зладжана зямля,
Што ўсё залежыць ад насення,
Кім узараецца ралля.

Колькі не меў бы сілы-волі –
Рукой валун не разгняцеш.
Мудрэй не скажам мы ніколі:
Што сам пасееш, то й пажнеш.

## МОЙ СУМ

Я стварыў нямала песень,
Толькі суму шмат у іх,
Бо бядую па Палессі,
Па застаўшыхся жывы.

Гэткі я ўжо небарака,
Гэткім сатварыў Гасподзь.
Лічаць часам задавакам,
Сыкнуць часам мімаходзь.

Толькі чым я задаюся?
Што люблю свой родны край,
Мову нашай Белай Русі?
Дык хіба я пустаграй?

Каб усе мы шчыра дбалі
Пра нязбежны судны дзень.
Калі нас бы пахавалі,
А застаўся праўды цень.

Праўда тых, каго абралі
З неба помніць пра усіх,
Каб крыжы не руйнавалі
Й не займала волі дых.

***

Як вабіць позірк па начах
Пагаслай znічкі кволы сполах.
Чамусь раней не прыкмячаў
Я тайнаў столькі ў зніклых зорах.

Яны ляцяць к нам на зямлю,
Магчыма, з нейкаю надзеяй.
Гляджу на зорнаю раллю,
На тайны зор даўно хварэю.

Свой шлях бы мераў спакваля
І браў, што дадзена мне Богам.
Дык не ж – нудзіць мяне зямля,
І неба вабіць да знямогі.

Мне рупіць ведаць: а што там?
Няўжо Сусвет наш неабсяжны?
І дзе апошняя вярста?
Ці ёсць яна? Мне вельмі важна.

Бо там і мой блукае след,
Хоць у прасторы, хоць у чае.
Аб гэтым думае паэт,
Куток знайшоўшы на Парнасе.

## ЯК ЖЫВУ, ТАК І ПІШУ

Як жыву, так і пішу,
Не пішу, дык думаю.
Не кранай адно душу,
Не трывож бяду маю.

Неяк спраўлюся я сам
З бураю сустрэчнаю,
А сумлення не прадам
Прайдзісвету вечнаму.

Дакашу жыцця пракос,
Стомлена спынюся
Ля крынічкі, дзе узрос,
І нагбом нап’юся.

Панясу далей свой крыж
З верай пілігрыма,
Хоць падчас на свет глядзіш
Скрушнымі вачыма.

Я тугу і боль спазнаў,
Госпаду малюся,
Каб мне сілы духу даў
Жыць для Беларусі.



## Ліст роднай вёсцы

Мая маленькая радзіма,
Без пафасу й класічных рыфм
Пішу табе заўжды адзінай
Так шчыра, што займае дых.

Пішу натхнёна і са ўздымам
Пра лес наш, сцежкі і дарожкі.
Мая крыўя – мая радзіма,
Мае рамонкі і валошкі...

І набягаюць слёзы жалю
І ўспаміны, згадкі-мроі.
Маленства босага скрыжалі
Калышуць векавыя хвоі.

Пяе мне вецер калыханку,
Жалобна патанаю ў скрусе
І мрою зноўку спадзяванку.
Што прыняссе дзяцінства бусел.

Ды сёння на радзіме дзіка.
Зрэдзь часу едзе хто туды.
Ў палескім краі невялікім
Ледзь небясконцыя клады.

Асірацелая радзіма,
Без пафасу, што рэжа слых,
Я плачу па табе адзінай
Так шчыра, што займае дых.